 

# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 5 (988) ГОД XX 2 ЛЮТАГА 1975 г. ЦАНА 60 гр.

ГМІННЫЯ ЦЭНТРЫ

## Міхалова

Здаўных даўна Міхалова з'яўляецца адміністрацыйным цэнтрам сваёй ваколіцы. Тут існуюць старыя прадпрыемствы з багатымі традыцыямі. Яны адноўлены і разбудаваны. Гэта тэкстыльная фабрыка — цяпер філія беластоцкай фабрыкі ваўнянай прамысловасці імя Сяржана і цагельня ў Лясанцы — цяпер Падляшскае прадпрыемства будаўнічай керамікі. Гэтыя ўстановы помняць яшчэ цара.

Тут даўно існуе аптэка, млын, пякарня, масарня, ёсць таксама ПОМ, дом культуры, таварны дом, спулдзельчы банк і іншыя ўстановы.

Два гады таму назад, калі наступіў новы адміністрацыйны падзел найніжэйшых органаў дзяржаўнай улады, Міхалова стала гмінай, да якой належаць нават даволі далёкія вёскі. Жыхары гэтых вёсак у гмінным цэнтры могуць уладзіць амаль усе свае справы, бо тут і гмінная ўлада, якая мае цяпер шырокія правы, і міліцыя, і медыцынская дапамога, і школы, і аддзел ЗАГС-у, і царква, і касцёл, і пошта, і крамы, і пункты скупкі збожжа і жывёлы. Адным словам, усё тут ёсць. А як інфармуе нас сакратар упраўлення гміны П. Каласоўскі, будзе яшчэ больш усяго таго, што аблягчае жыццё чалавека.

Адной з такіх важных спраў для Міхалова было забеспячэнне яго добрай, здаровай вадой, якую б бралі не з вулічных і панадворкавых калодзежаў, а з водаправоднай сеці. Гмінныя ўлады заняліся гэтай справай, і ўжо выканаsucceeded ны тры глыбінныя калодзежы, абсталявана гідрафорня і праведзена водаправодная сець даўжынёю 140 метраў. Вада падключана да многіх дамоў. Сёлета з водаправоднай сеці будуць карыстацца ўсе жыхары Міхалова, бо згодна з планамі гміны, да канца 1975 г. далейшы адзінаццацікіламетровы адрэзак водаправода поўнасцю забяспечыць вадою ўсе хаты мястэчка.

Другой вельмі важнай інвестыцыяй Міхалова з'яўляецца будова ачышчальні сцёкаў, якая запланавана разам з разбудовай малачарні. Яна ахопіць увесь міхалоўскі гарадскі пасёлак.

(Працяг на стар. 4)

## 1974 — добры год для Бельскага беларускага ліцэя

Сапраўды гэта быў добры год у жыцці нашай школы. Усе тыя, хто крытычным вокам глядзіць на тое, чым і як жыве наша школа, убачаць, як яна хутка прыгажэе, квітнее з кожнай хвілінай больш. Нам — вучням, якія два, тры або ўжо чацвёрты год з будынкам школы звязаны па пяць, шэсць і сем гадзін у дзень, цяжка заўважыць, калі штосьці і змяняецца ў ім, проста ўсе мы цешымся. Але вось, калі прыходзяць у школу нашы выпускнікі, дык і вачам сваім верыць не хочуць. Каб не тое самае месца, на якім стаіць будынак нашай школы ўжо 15 год, дык гатовы яны завярнуць ужо ў парозе ў перакананні, што заблудзілі. Яны — выпускнікі вельмі рады, што іх школа развіваецца, расце, становіцца прыгажуняй. А многа-многа выпускнікоў прыходзіць у школу. Яны ахвотна размаўляюць з намі — вучнямі, з настаўнікамі, з дырэктарам. Расказваюць аб сваім новым жыцці, аб сваіх кроках па дарозе, на якой шпарка імчыцца іх жыццё. Тым самым яны памагаюць нам — перш за ўсё чацвёртакласнікам — у выбары сабе шчаслівай у жыцці сцежкі-дарожкі, каб потым ісці па ёй упэўнена, не баючыся спатыкнуцца.

У гэтым добрым — 1974 годзе ў нашым ліцэі ўручана 1000-ае пасведчанне найлепшай выпускніцы Таісе Філіманюк. У гэтым годзе школа святкавала 30-годдзе свайго існавання. Адбыўся I з'езд выпускнікоў.

Першы з'езд выпускнікоў быў вялікай урачыстасцю нашага ліцэя, які з'яўляецца равеснікам Народнай Польшчы. Важнай была ўрачыстасць гэтая і таму, што наша школа вітала 28 верасня гасцей з кожнага кутка краіны. Нашым гасцям вельмі спадабаўся наш ліцэй. Мы так дадумваемся, што яны напэўна цяпер зайздросцілі нам крыху такой школы і навукі ў ёй.

Ніколі да гэтага часу не было ў нас такой колькасці вучняў. У гэтым годзе іх 457. Пабольшала таксама колькасць класаў — з 12 да 13. Цяпер у нас аж чатыры першыя класы: I „А", I „Б", I „Ц" і I „Д".

На 45 вучняў у гэтым годзе ў нас 102 вучні чацвёртых класаў, калі, напрыклад, у 1970 г. было іх толькі 47.

У гэтым годзе нашы бацькі, мы і настаўнікі многа і ахвотна працавалі. Супольнымі сіламі былі пабудаваны тры залы. Гэтая пабудова каштавала 300 ты-

(Працяг на стар. 4)

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## Эдвард Грыня-віцкі



Ураджэнец вёскі Рагазы (Гайнаўскі павет) Эдвард Грынявіцкі гэта адзін з найбольш вопытных і заслужаных гаспадароў Нараўскай гміны. Найлепшых поспехаў дабіўся на сваёй 13-гектаравай гаспадарцы, якая лічыцца доследнай, за апошнія восем гадоў. Цяпер укараняе пад наглядам сельскагаспадарчай навукова-доследнай установы сучасныя прыёмы ў галіне агратэхнікі. Спажыткоўвае восем тон мінеральных угнаенняў. Збірае ў сярэднім звыш 30 цэнтнераў жыта з 1 гектара зямельных угоддзяў V і VI класаў. Многа папрацаваў ён над тым, каб палепшыць структуру зямлі, і цяпер яна ў яго ўжо не тая, чым была раней. На адзін гектар зямельных угоддзяў, якія земляроб прызначае пад жыта, дае 6 прычэпаў арганічнага ўгнаення, 400 кг гранулянага суперфасфату, 170 кг каліевай солі 34%, 300 кг салетры ў трох дозах. Асабліва ўдалася пшаніца „Урбанка" — яе ўраджай 40 цэнтнераў з га. Сеяў яе на бульбянішчы і на глебе IV класа. На 1 га даў 400 кг суперфасфату, 180 кг каліевай солі і 100 кг салетры. Апрача таго, ўпару правёў апырскванне і знішчыў пустазелле. Гэта дазволіла зберагчы дадаткова 5-6 цэнтнераў збожжа. У гэтым годзе пасее гэтай пшаніцы 2 га, каб хапіла і на абмен суседзям. Добра таксама ўрадзіла ў Эдварда Грынявіцкага бульба. Найлепш „Флісак" (300 цэнтнераў з 1 га) і „Эпоха" (208 цэнтнераў з 1 га). Збожжа і бульбы рагазоўскі земляроб прадаў 13.500 кг. На сваіх доследных палетках вырошчвае ён тры сарты бульбы, буракі „Паліпасты" і ў гэтым годзе ўпершыню пачне вырошчваць новы сорт ячменю „Космас".

Перадавы гаспадар Эдвард Грынявіцкі па-сучаснаму гаспадарыць таксама на зялёных угоддзях на меліяраваных аб'ектах „Каротышы" і „Вострава Малішэўскія". Сенажаці і пасбішчы засеяны травамі. На 1 гектары пасбішчаў у яго 36 кватэр і электрычны пастух. Дазваляе гэта рацыянальна выкарыстаць траву. Пяць гектараў загаспадараных зялёных угоддзяў, да таго ў адным кавалку, дазваляюць добраму фахоўцу развіваць гадоўлю кароў. Цяпер ён гадуе 8 штук, у тым ліку 5 дойных. На пункце скупкі ў Іванках прадаў ён у мінулым годзе звыш 14 тыс. літраў малака ў класе „А". У мінулым годзе нарыхтаваў кішонку з 6 тон травы і 25 тон бурачанага лісця. Корм на зіму атрымаўся адмысловы. У кароўніку гаспадар для ўласнай выгады ўвёў так званую малую механізацыю.

Прыкладны земляроб трымае некалькі свінаматак і ад іх у мінулым годзе прадаў дзяржаве 30 штук свіней па 120 кг штука і адну мацёру вагою ў 300 кг. Апрача таго, прадаў яшчэ 1580 кілаграмаў ялавічыны ў 1 класе.

Шматлікія сельскагаспадарчыя работы рагазоўскі земляроб выконвае пры дапамозе ўласнага трактара, які купіў у 1972 годзе. Апрача таго, супольна з суседам Семяновічам (ён мае таксама ўласны трактар) купіў снопавязалку, культыватар, касілку, раскідальнік мінеральных угнаенняў, плугі і намераны купіць яшчэ новы абмалотачны агрэгат.

Нават зімою гаспадар устае вельмі рана, кладзецца спаць позна. І цяпер у яго работы хоць адбаўляй — неабходна правесці рамонт некаторых сельскагаспадарчых машын, каб на весну былі яны ў поўнай гатоўнасці. Гэта неабходна: майстар сельскагаспадарчай прадукцыі Э. Грынявіцкі намераны ў далейшым змагацца за яшчэ лепшы ўраджай.

Э. Грынявіцкі выконвае функцыю сакратара мясцовай партарганізацыі. Знаходзіць яшчэ час на тое, каб пагутарыць з суседзямі. Карыстаецца ён заслужаным аўтарытэтам сярод аднавяскоўцаў. Яны цэняць яго і за добрасуседскую дапамогу ў час рухлівых палявых работ.

Гутарым мы з Эдвардам Грынявіцкім, праглядаем яго шматлікія дыпломныя ўзнагароды. Мой субяседнік расказвае, што яго прозвішча ўпісана ў „Кнігу заслужаных для Беласточчыны", паказвае Сярэбраны Крыж Заслугі, якім быў узнагароджаны ў 1971 годзе. Гляджу я на гэтага сардэчнага чалавека і бачу працалюбівага, ціхага героя нашых часоў, вопытнага сучаснага гаспадара.

Я. Цялушэцкі

Фота аўтара

### Праз тыдзень у „Ніве"

**Аб найпрыгажэйшай гармоніі свету ў Гайнаўцы ● Гміна Нараўка (якая ёсць і якая будзе) ● Юбілейныя „Васілёчкі" ● Барскі адступае з Сібіры ● Нашэсце веласіпедыстаў на Нью-Йорк ● Пуцяводныя думкі (новая рубрыка) ● Кніга на Беласточчыне ● Першае каханне ў 70 год ● Весткі з Рыбалаў, Дубічаў Царк., Белавежы, Слабодкі, Астраўка і інш. ● Гараскоп ● Песня „Спят курганы темные".**



*Дуброва. Аднасямейнае будаўніцтва.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

 

**XVI** пленум Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, які праходзіў 6 і 7 студзеня гэтага года, быў прысвечаны тэме **„За далейшае ідэйна-палітычнае і арганізацыйнае ўмацаванне партыі — вядучай сілы сацыялістычнага будаўніцтва“.** Глыбока ўдумаўшыся ў справы, якія абмяркоўваліся на ім, пераконваемся, што датычацца яны не толькі членаў партыі, але і беспартыйных. Болей таго, яны поўнасцю адносяцца да кожнага з нас, да ўсяго нашага грамадства і ўсіх галін нашага жыцця. Як падкрэсліў у сваім выступленні на пленуме І сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк: *„Мы заўсёды і ўсюды памятаем, што сацыялістычную Польшчу будуе ўвесь народ, а партыя з'яўляецца толькі кіруючай, вядучай сілай у гэтым велічным усенародным здзяйсненні“.*

Значыць, у ім ёсць пачэснае месца членам і прыхільнікам нашага Беларускага грамадска-культурнага таварыства як неад'емнай часткі сілаў, згуртаваных у Фронце адзінства народу. Наша арганізацыя, як вядома, аб'ядноўвае людзей, што разгортваюць шырокі грамадскі пачын для дабра гаспадарчага развіцця краю і ажыўленага культурнага жыцця ў сваім асяроддзі. Лічыцца пры гэтым асабісты ўклад кожнага з нас у вытворчыя дасягненні на фабрыках ды прадпрыемствах і ва ўласнай гаспадарцы. Высокай якасці вынікі працы рабочых і інтэлігенцыі, штораз вышэйшыя ўраджаі на палях і ўзрастаючая гадоўля — гэта наша мэта на

## За ўдасканальванне дзейнасці

сёння і заўтра. Сацыялістычнае грамадства немагчыма без усебакова развітай культуры, інтэрнацыянальнай па змесце і нацыянальнай па форме. А культура ніколі не бывае бяздомнай і бязмоўнай. Яна вырастае толькі на глебе прагрэсіўных традыцый і развіваецца ў красачнай рэгіянальнай ці нацыянальнай форме. І таму высокая культура жыцця наштодзень і актыўная культурна-асветная дзейнасць у вёсках, мястэчках і гарадах, дзе пражываюць беларусы — гэта наша дзялянка. Добра працуючы гурток БГКТ, справна дзейнічаючы аддзел таварыства, займальныя і на высокім узроўні ўрокі роднай мовы, цікавыя заняткі і вясёлыя вечары адпачынку ў клубах, святліцах і дамах культуры, удала пастаўленая п'еса і на адпаведным узроўні выступленне спевака ці хору — гэта ўсім люба і яно нам пад сілу.

Нашыя поспехі ў гэтай галіне залежаць у значнай меры ад маральных матывіровак, ад пажаданняў і ахвоты, калі яны ператвараюцца ў жыццёвую матэрыяльную сілу. І тут важна, каб увесь час паляпшалася атмасфера, у якой даводзіцца нам выконваць пастаўленыя заданні. Ведаем жа з уласнага вопыту, што толькі ў тым асяроддзі бываюць добрыя вынікі і людзі ахвотна бяруцца за работу, дзе пануе ўзаемная пашана, дзе нават найменшы асабісты клопат знаходзіць зразуменне, спагаду і дапамогу. Тады чалавек адносіцца да грамадскай дзейнасці ў гуртку ці калектыве з асаблівай прыхільнасцю. Яна дастаўляе яму прыемнасць. Дбайма пра гэта на кожным кроку. І дзейнасць наша будзе пашырацца, а людзей у шэрагах БГКТ будзе прыбываць. З кожным днём жа ў кожнага чалавека ў нашым асяроддзі ўзрастае патрэба грамадскага дзеяння, жаданне выяўляць і развіваць свае ўменні і таленты, прага ўдзельнічаць у стварэнні культурных цэннасцей, зразумелых яму і блізкіх. Для рэалізацыі гэтага грамадскага запатрабавання і створана наша таварыства.

Між іншым, і да нашай дзейнасці адносіцца выказванне Э. Герка на пленуме: *Вялікае значэнне надаем таксама далейшаму ўдасканальванню дзейнасці прафесіянальных саюзаў, развіццю ўсіх форм самаўпраўлення, падтрымоўванню ініцыятываў грамадскіх арганізацый, таварыстваў і рэгіянальных таварыстваў, усім формам грамадскай актыўнасці людзей працы, што развіліся і дзейнічаюць у Народнай Польшчы“.*



## Сібірскія балады

# На моры нафты

Аўтобус наш затрымліваецца. Выходзім з машын. Тут тое месца, з якога пачалася атака на Саматлорскае мора нафты. Вось „помнік“ на месцы першай скважыны, прабітай геолагамі ў глыб зямлі.

Інжынер Самалёткін апавядае:

— Сюды ў 1965 годзе прыйшлі першыя геолагі. Ішлі праз гушчар тайгі роўна 45 дзён. На дарозе ўтапілі ў балоце 8 машын. Не ведалі вогуле, ці ёсць тут нафта. Аказалася, што ёсць. Бяда аднак у тым, што нафта аказалася пад грамадным, мулістым, мёртвым возерам Саматлор. У возеры было 190 мільёнаў кубічных метраў вады. З гэтага 50 мільёнаў насосамі выссалі і вылілі ў Об. У некаторых раёнах Саматлора балота, гразь, ціна мае таўшчыню 12 метраў. Балота нельга высасаць так, як ваду, трэба з ім змагацца іншымі спосабамі.

— На Саматлоры мала людзей, і таму трэба тут уводзіць супераўтаматыку. Тут самыя высокія прадукцыйныя вынікі ў галіне здабычы нафты на чалавека не толькі ў СССР, але і на свеце за выключэннем Кувейта, Саўдыйскай Аравіі. Там, з увагі на выключныя ўмовы, адзін рабочы здабывае больш, чым рабочы на Саматлоры. Але толькі там. Усіх іншых рабочых нафтавай прамысловасці на свеце абагнаў рабочы з Саматлора. Кожны рабочы з Саматлора здабывае ў год 55 тысяч тон нафты. А трэба памятаць, — гаворыць інжынер, — што на міжнародным рынку тона нафты каштуе 62 долары.

Паціху множу 55.000 тон на 62 долары і атрымліваю 3 мільёны 410 тысяч. З гэтага вынікае, што кожны нафтавік Саматлора дае прадукцыю, гадавая вартасць якой раўняецца амаль тры з паловай мільёна долараў. Нешта фантастычнае!

Інжынер вядзе нас да скважыны, з якой здабываецца нафта. Над зямлёй вельмі скромная прылада, усяго два-тры метры вышыні, крыху нейкіх трубак і больш нічога. Дзівота, што нешта такое без людзей можа здабываць такое багацце. Інжынер паясняе, што прылада гэтая цягне нафту з глыбіні 2500 метраў і дае кожныя суткі 1 200 тон каштоўнага паліва. Сабекошт тоны нафты з Саматлора 12 рублёў.

Ідзем назад да аўтобусаў. Сядаем і едзем. І справа і злева вада. Аказваецца, што даўжыня Саматлора 44 кіламетры, а яго шырыня 28 кіламетраў. Гэта ж па сутнасці мора, а пад ім на глыбіні дзвюх з паловай тысяч метраў другое мора нафты. Мы сабе па сухому едзем на двух морах. Такое магчыма ў казцы.

Ад нашай дарогі ў розныя бакі возера разыходзяцца іншыя дарогі. Заехалі ў завулак. Затрымліваемся. Далей дарогі ўжо няма, толькі вада і вада. Сумна, гэта ж ужо апошні пункт нашага падарожжа. Дагэтуль мы ўсё ехалі наперад і наперад, адсюль ужо будзем толькі вяртацца назад. Мае сумныя роздумы спыняе інжынер, які прадаўжае гутарку. Вось тут, дзе канчаецца дарога, знаходзіцца насыпаная плашчадка прыблізна 100 на 100 метраў. На плашчадцы стаіць грамадная бурыльная вежа. Вертлы яе заядла дзень і ноч грызуць зямлю. Мусяць прабіцца на глыбіню 2 500 метраў. Адтуль хлыне нахта. Тады геолагі выцягнуць вертлы. Развінцяць усю вежу і на новай плашчадцы, якую пабудуюць ім дарожнікі, паставяць вежу ды зноў метр за метрам будуць прабіваць зямлю.

Інжынер, што апавядае, прадстаўляе нам інжынера Шарамецьева, спецыяліста па будове дарог, які знізіў кошт будовы кіламетра дарогі з 2 мільёнаў на паўмільёна рублёў.

Я пытаю ў нашага правадніка, колькі больш-менш трэба было прывезці зямлі на возера, каб пабудаваць плашчадку, на якой пастаўлена бурыльная вежа. Ён мне адказвае, што каля 120 тысяч тон.

Вяртаемся на судна, абедаем, адпачываем.

Вечарам сустрэча з геолагамі.




*Гэта „помнік“ саматлорскай нафце.*

Сярод драўляных домікаў вялікі дом культуры. Многа людзей. Роўна ў $19^{00}$ пачынаюць выступаць пісьменнікі. Выступаў і я. Сказаў: „Самае доўгае ў маім жыцці, сібірскае падарожжа было самай кароткай дарогай да чалавечых сэрц. У геолагаў і паэтаў падобныя мэты. Вы бурыце зямлю, каб дастаць з яе глыбіні яе скарбы, мы стараемся пранікнуць у глыбіню чалавечых сэрц, каб вызваліць з іх эмоцыю, пачуццё, шчырасць, якія з'яўляюцца галоўным багаццем чалавека“.

Пасля чытаў некалькі беларускіх вершаў і верш, напісаны па-руску. Скончыў. Доўгая, доўгая авацыя.

А $21^{00}$ закончылася сустрэча і ўсе пісьменнікі пайшлі ў рэстаран на банкет.

Дагнала мяне жанчына гадоў пяцідзесяці.

— Дайце мне аўтограф. Мне спадабаліся вашы вершы, я ўсё ў іх зразумела. Не ведаю толькі, што значыць „усхваляваны“. Я ёй тлумачу і падпісваюся на адагнутым лісточку.

На банкеце пілі, елі, выступалі. Выступаў і я. Каля адзінаццатай банкет скончыўся. Выйшлі з-за сталоў. Акружыла мяне чалавек 15. Гавораць рознае: „Я была ў Польшчы на экскурсіі“, „Я вызваляў Польшчу ў 1945 годзе“, „Я хачу паехаць у Польшчу“, „Вы не паляк, вы нехта іншы“, „Прыязджайце да нас ў камандзіроўку на цэлы год“. Ад усяго гэтага кружыцца галава. Некалькі чалавек схапіла за рукі і пацягнула мяне назад за стол.

Прыбеглі з аўтобусаў, пачалі крычаць, што ўсе даўно ў зборы і з-за мяне аднаго трымаюць машыны.

— Мы яго адвязем самі! — адказваюць мае сябры.

— Нельга, — адказваюць грозна пасланцы.

Не было выхаду, трэба было развітацца і сесці ў аўтобус. З пачуццём віны я зашыўся ў вугал. Аўтобус рвануў у бок прыстані.

**Алесь Баркі**

## БГКТ хроніка

■ 15 студзеня адбылося пасяджэнне прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, на якім разгледжана была справаздача аб мінулагодняй дзейнасці аддзела, прыняты план працы на першае паўгоддзе 1975 года і абмеркавана падрыхтоўка аддзела да конкурсу „Беларуская песня-75“.

■ Нядаўна адбыўся сход гуртка БГКТ у Меляшках (Беластоцкі павет), на якім былі абмеркаваны справы ўдзелу яго ў конкурсе БГКТ на беларускую песню і ў конкурсе тэатральных калектываў. Пастаноўлена, між іншым, што гурток возьмецца за апрацоўку і падрыхтоўку народных дажынак.

■ Варшаўскі аддзел БГКТ 18 студзеня арганізаваў традыцыйны баль у Прымасоўскім палацы. На ім выступіў мастацкі калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку „Каласкі“.

■ 18 студзеня харавы калектыў БГКТ у Бельску святкаваў юбілей — 10-годдзе свайго існавання. Урачыстасць адбылася ў павятовым доме культуры, аб ёй у наступным нумары „Нівы“ будзе змешчана абшырная публікацыя.

■ Аплочванне членскіх складчын залічаецца да адной з важных спраў, якія сведчаць аб сувязі данага члена са сваёй арганізацыяй. Найгорш аплочваюць складчыны на Сакольшчыне. Толькі ў 18,7% аплочаны яны за 1974 год. Значна лепш, але таксама не добра выглядае гэта справа ў беластоцкім, бельскім, гайнаўскім, гданьскім і варшаўскім аддзелах. Там аплочаны складчыны за мінулы год прыблізна ў 50 працэнтах. Найлепш з гэтым у сямяціцкім аддзеле — членскія складчыны аплочаны ў 93,8 прац.

(мх)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 2.II.** 7.30 Kurs Rol. 8.05 Przyp., radz. 8.15 Now. w domu i zagr. 8.40 Bieg po zdr. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.30 Antena. 10.50 Obrońcy Stalingradu — film dok. radz. cz. II. 12.15 Dzien. 12.35 Czy tylko kombajny. 12.55 Dla dzieci. 13.35 Nie tylko dla pań. 14.00 Bank miast nr 8 Szczawnica — Wisła. 15.15 Los. Toto-Lot. 15.30 Sport. 17.30 Bank miast (II). 18.15 Lektury Peg. 18.30 Varieteka cz. II. 19.15 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.25 Droga. 21.20 Bank miast (III). 22.05 Sport.

**Poniedziałek 3.II.** 9.00 Teleferie. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 14.55 Nurt — Nauki polit. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Sport. 16.30 Dzien. 16.40 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.55 Kur. Lub. 18.10 Pr. balet. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Szare na złote. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: W. Inge „Piknik“. 21.35 Świadkowie. 22.05 Pr. muz. 22.20 Dzien. 22.35 Sport. 22.45 Oferty.

**Wtorek 4.II.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 10.00 Kozi róg — film fab. bułg. 13.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 14.30 Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Kino Skrzat. 17.10 Ratunek musi przyjść w ciągu 8 godzin — film dok. wł. 17.35 Ferie z pomysłem. 18.15 Kr. Warsz. i Maz. 18.35 Eureka. 19.05 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Kozi Róg — film fab. bułg. 22.00 Sport. 22.10 Interstudio. 22.50 Dzien.

**Środa 5.II.** 6.30 Tech. Rol. Wskaz. met. 7.00 Mat. 8.30 Złodzieje rowerów — film fab. wł. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. O cieple. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.20 Mat. 13.50 Politech. Kurs przyg. Fiz. 15.00 Nurt — Naucz. począt. 15.30 Sport. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Latający Holender. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.30 Teatr w domu — film ser. jug. 17.55 Kr. Warsz. i Maz. 18.15 Sylwetki X Muzy — Z. Leśniak. 18.40 Spotkanie z medyc. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Złodzieje rowerów — film fab. wł. 21.50 Sport. 22.00 Twarze teatru — H. Winiarska. 22.35 Dzien.

**Czwartek 6.II.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 10.00 Wino, śpiew i życie — film fab. CSRS. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Dla szkół: Mat. w szk. 15.35 Pr. dnia. 15.40 Sport. 16.30 Dzien. 16.40 Ekran z brat. 17.40 Grunt to kondycja — pr. rozr. 18.05 Kr. Warsz. i Maz. 18.25 Tatrzańskie posiady — film dok. 18.55 Ryby mają głos — pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr Sensacji: M. Butrym — Cień Archanioła. 21.35 Czym żyje świat. 22.05 Sport. 22.15 Brzechwa mało znany. 23.05 Dzien.

**Piątek 7.II.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Upr. rośl. 10.00 Droga. 11.05 Dla szkół: (kl. II) Z wizytą u mistrza. 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mat. 14.40 Politech. Kurs przygot. Mat. 15.50 Nurt — Psych. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Pora na Telesf. 17.15 Wych. fiz. receptą na zdr. 17.40 Przewodnik Mł. Turysty. 18.00 Poradnia Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Fakty, op., hip. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Teatr TV: H. Bardijewski — Stan wyjątkowy. 21.20 Panorama. 22.00 Sport. 22.10 Co nam zostało z tych lat — A. Bogucki. 22.40 Dzien.

**Sobota 8.II.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Mat. 9.30 Historia pewnej przyjaźni — film fab. rum. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. Badacze Antarktydy. 13.40 Tech. Rol. J. pol. 14.15 Chem. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.05 Red. Szk. zap. 15.15 Kr. Warsz. i Maz. 15.35 Sport. 16.30 Dzien. 16.40 Sobótka. 17.05 Turniej magii. 17.50 Światł. not. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Hoffman — film fab. ang. 22.05 Przeboje świata. 22.35 Dzien. 22.55 Sport. 23.10 Prof. Weltszmerca recepta na życie.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 31.I** — Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 13.00 Film fab. 17.50 Film ser. 19.30 Hokej. 20.10 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie.
**Sobota. 1.II** — 13.15 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 16.15 Filmy anim. 17.45 Film ser. 19.30 Pr. roz.
**Niedziela 2.II** — 9.00 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 11.30 Film fab. 14.00 Klub film. 15.00 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 17.20 Koncert. 17.45 Film ser. 20.30 Mistrz. świata w hokeju z piłką. Finlandia — ZSRR.

## КІНО

**Białowieża** Nadzieżda — radz. 4—5. Zapis zbrodni — pol. 6—7. Piosenkarka z Towerny — jug. 8—9.

**Czyże** Potop cz. I — pol. 5—9.

**Dubicze Cerkiewne** Niezwykły kochanek — wł. Ostatni po Bogu — pol. 5—9.

**Gródek** Iwan Wasiljewicz zmienia zawód — radz. 8—9.

**Kleszczele** Przez pustynię — mek. 4—5. Swobodny oddech — węg. 6—7. Zapis zbrodni — pol. 8—9.

**Michałowo** Pan Hulot wśród samochodów — fr. 4—5. Front wyzwolenia — pol. 6—7. Jeździec bez głowy — radz. 8—9.

**Mielnik** Sprawa sumienia — wł. 5. Macocha — radz. 8—9.

**Milejczyce** Jadą goście, jadą — pol. 4—5. Osobliwa miłość wł. 6—7. Dzięcioł — pol. 8—9.

**Narew** Nie będę cię kochać — pol. Wielki łup gangu Olsena — duń. 5—9.

**Narewka** Włoch szuka żony — wł. Wraki — pol. 5—9.

**Nurzec** Lekcja odwagi — bułg. 4—5. Człowiek, który przestał palić — szw. 6—7. Janosik — pol. 8—9.

**Orla** Podróże z Jakubem — węg. Tygrysiątko — radz. 5—9.

**Rajsk** Wilk morski — rum. Zemsta wilka morskiego rum. 5—9.

**Suchowola** Opowieść w czerwieni — pol. Miłość rozkwita w piątek — wł. 5—9.

B.Z.Graf. zam. 3691 P-1

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 193


## На Казімежоўскуой раннею вэсною

*Выбач мнiэ Казiмежоўска*
*жэ о тобiэ нэ пiшу*
*i ты капэлюшнiку выбач*
*спуод бурдового плоту*
*груом тэбэ знае*
*чого ты выгледаеш*
*тымi своiмi очыма*
*з здохлою рыбою*
*i хто то бачыў*
*так бэз делоў*
*на ходнiковi стоятi*
*i чого ты*
*плоту того*

*выбач мнiэ дорогая*
*жэ нэ пуодставiла ногi*
*тому п'яному*
*пуодслухала шчэ як ругаўся*

*выбач мнiэ Казiмежоўска*
*жэ нэ завшэ бачу*
*твое домы з дымнiкамi i дымом*
*задымяняна в своiх думках*

*часом матка i сетка i Светка*
*з сеткi лiецьця*
*Светка смiецьця*
*матi в дошчах*
*з нэба в слёзах*

*о як дошч*
*то на Казiмежоўскуой*
*пахнэ гроховяком*
*жэ будь будь*
*шчэ чуть, чуть*
*i до Бельшчанкi*

*а як снiг*
*то так в ёму*
*летiў бы летiў бы*
*аж на когось налетiў бы*
*ага а взавтра до дому*
*з Казiмежом по Казiмежоўскуой*
*пуойду*
*i Казiк скажэ*
*што так любiт вiэтёр*
*бо в моiх волосах...*
*пуод бурдовым плотом*
*здохла рыба*
*i сетка i Светка.*

**З. Сачко**

## ВЯЗ

Над хатай і вясковым брукам
Дзвесце гадоў, а можа болей,
Раскінуўшы галіны-рукі
Рос вяз — фарсун на наваколле.

Ён браўся забаркі з вятрамі,
Завеі стрымліваў і слоты,
Лавіў маланкі з перунамі,
Дарыў цень людзям у спякоту.

Над вязам адгрымелі войны,
Ён мужным выстаяў салдатам.
Настаў зноў мірны час спакойны,
Змены прынёс людзям у хаты.

Прыехала шмат хлопцаў юных,
З дратамі тут стаўбы ўкапалі,
А на дратах тых, як на струнах
Вяз песні дзіўныя цымбаліў.

За гэта не спазнаў спакою,
Ізноў тут завіталі людзі
І электрычнаю пілою
Жывыя пілавалі грудзі.

Памёр асілак, прашчур лесу,
На вёскі брук ствол-цела ўпала.
Не разумеў, відаць, прагрэсу,
Відаць, быў ад жыцця адсталы.

**Віктар Швед**



* ✻ *

*У зелені схаваюся сягоння,*
*ты шукай мяне ў лісцях,*
*знойдзеш, у кошычак згорнеш*
*з сакавітаю малінаю*
*і памалу прынясеш дахаты.*
*Я ў карзіне застануся, а ты крыкнеш:*
*— Вылезь зараз,*
*у карзіне не дурыся.*

**Алесь Барскі**

## ПЕРАМОЖАЦ

Пераможац астаецца сам на полі бою,
як патэтычная статуя на вяршыні.

Яшчэ ў грудзях, яшчэ ў сэрцы агонь палае,
яшчэ нязломнасць, веру ў сілы шле багіня.

На полі бою стае спакою абсалютызм,
у якім бой сэрца грукатам ёсць грому.

Каменная цішыня бой сэрца вольна студзіць,
гром правальваецца і гіне пад зямлёю.

У грудзях, у сэрцы палымяны пафас гасне,
перамога стаецца попелам, змяркannem.

...Над нязломным, над пераможцам меймы лятасць,
пераможца ўзнагародзьмы спачуваннем.

**Юрка Баена**



* ✻ *

*Белы снег, не ўсходзіць высокае зелле*
*З зямлі, глыбока ўмерзлай пад купалам неба.*
*Ведаю, ты была тут, у зімовым гародзе*
*З галінкі дыхання белай за замерзлай шыбаю.*
*Хто прынёс цемру й з хаты на дарогу ўцякае,*
*Чый цёплы голас ноччу з дрэў плыве ўсохлых,*
*Ясных локанаў дым, а ў горкім дыме подых*
*дарог цёмных, дрэў мёртвых, начнога гароду.*
*— Чакаць трэба, калі ўжо згублены вяртанні.*
*І пазнаць твараў нельга ў бліскучым снезе.*
*Ведаю. Ты ёсць, была ты ў снежнай завеі —*
*Я часаў валасы на дарозе белай.*
*І маўклівы паплёўся ў цемрадзь глыбока...*
*Ведаю — чакаць трэба пары вяртанняў.*

**Кастусь Бандарук**

## ГУТАРКА З МАЦІ

Мяне здзівіла, як мала змяніўся лес...

Маці не чакала, па-будзённаму сядзела папоцемку (бацька некуды пайшоў).

Мы прагаварылі да першых пеўняў. Бацька вярнуўся падпітым і, убачыўшы мяне, неяк засаромеўся.

Ад'ехаў я назаўтра, пад вечар: маці наклала ў модную сумку маю — цыбулі, буракоў і бульбы. Хацеў рассмяяцца...

Відаць, нямнога яшчэ зразумеў я ў жыцці.

**Сакрат Яновіч**

## ФАРБЫ ЗІМЫ

Белая-белая, беластволая,
Як бярозка ў полі,
Разгулялася зіма-зімухна
Ў беласнежным прасторы.

Сіняя-сіняя, сінявокая,
Як хлапчына вясковы,
Заіскрылася зіма-зімухна
Ільдом сінім азёрным.

Чорная-чорная, чарнавокая,
Як пацалунак ночы,
Закружылася зіма-зімухна
Чорным віхрам у плоце.

І чырвоная, і ружовая,
Як шчокі дзяўчыны,
Замарозіла зіма-зімухна
Увесь свет гаманлівы.

**Мікалай Варанецкі**



## МАЕ СТРУНЫ

*Мне струны ў рукі...*
*Дайце мне струны*
*Ад сэрцаў вашых*
*Каб не спявалі*
*Толькі дрыжэлі —*
*Чутка як травы*
*У сажалках вады*
*Каб не спявалі —*
*Ціха стагналі*
*Пад каласамі ў жніво*
*Струны жывыя*
*Каб не спявалі*
*У навальніцу*
*Неслі адвагу*
*Холаду чар*
*Тады заіграю —*
*Сваю выму душу*
*Сэрца аддам для людзей*
*Толькі крануся*
*Поле ўлетку*
*Сплыве са струны*
*Вам трэба поля*
*І трэба лесу*
*У маіх жылах*
*Лясная глуш*
*Струну ад сэрца*
*Крану я з болем*
*Шопатам вечным*
*Лес загудзе*
*Няспынна са смуткам*
*З жальбою...*
*Эх струны*
*Маўчыце*
*час ваш прыйдзе...*

**Вераніка Леанюк**

* ✻ *

*Быў час*
*Калі халодны вецер*
*Аграваў нашы мары*
*Аграваў нашы думкі*
*Простыя думкі*
*Аб нечым вялікім*
*Цікавым*
*Трывалым*
*Патрэбным нам*
*Як сон як смех*
*Пасля*
*Рака нашых спраў*
*Рака нашых слоў*
*Рака нашых чынаў*
*Прарвала той час —*
*Прошлы час*
*Калі халодны вецер*
*Аграваў нашы мары*
*Аграваў нашы думкі*
*Сёння*
*Мы галодныя*
*Гэтых мар гэтых думак*
*Мы адкрылі ўжо*
*Таямніцу нашых сэрцаў*
*Нашых імкненняў.*
*Здавалася нам прыгожых і добрых*
*Але*
*Якія забілі нас*
*Паверма яшчэ раз*
*У той час*
*Паклічма халодны вецер...*

**Надзея Артымовіч**



## САЛОМКА

Пад ногі ўпала мне саломка,
Якую вецер падкідаў.
Глядзець зрабілася няёмка,
Глядзець няёмка і шкада.

Яна з'явілася страхою,
А з ёй чароўны успамін.
Калі пад матчынай рукою
Ты быў адзін і не адзін.

З тае драўлянае хаціны,
Што комін — неба падпіраць,
Вялі дарогі-пуцявіны
І заклікалі, што пара.

Стаю і думаю аб гэтым,
І мне не сорам за той час.
Ён, свежым подыхам сагрэты,
Даспее коласам у нас.

**Л. Танкевіч**

* ✻ *

Я знаю, ты таксама не хацеў, каб гэтае вялікае каханне перамянілася ў таксама вялікую, хаця часамі няпэўную, нянавісць. Але гавораць, што ад вялікага кахання да вялікай нянавісці вельмі блізка. Так, як ад генія да вар'ята. Мы не хацелі. А цяпер, калі пабачым адно другога — галава механічна адварочваецца.

Ты з нянавісцю прымружаеш вочы, я іранічна крыўлю губы.

А калісьці?

Галава рукі ногі круціцца свет здаецца само шчасце спявае песню радасць пацалункі галава • рукі вочы круціўся свет.

Так, ты старэйшы за мяне, ты разумнейшы, дык можа ты ведаеш, чаму людзі не любяць згоды?..

Калі мне сказалі: горкія слёзы неспадзяваны крык жаль і чорт знае што яшчэ усю як громам з яснага неба жыць далей хацелася раўсці як карове на полі сэрца здаецца разарвецца запеклы боль нечаканы чаго галаву сціскаеш ў руках дурная галава гэта ж усё снілася чаму гэта калісьці не першы раз.

Не хацела верыць, не верыла. Калі ўбачыла цябе, было дзіўна пуста і хацела, але не магла гаварыць.

Адвярнулася: сэрца стукатала як дурное пуста ціха неспадзявана вочы заходзяць болем не верыцца нянавісць мяшаецца з рэшткамі пачуцця хочацца кудысьці бегчы ратаваць шукаць твае вочы чорныя халодныя ноч не пярэчаць цёмная ноч жаль нічога не ўратавала.

Было вялікае каханне. Асталася нянавісць. Чаму? Я не хацела і ты не хацеў.

**Наташа Грыбок**



